

Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№37 (1054) 22 лютага 1995 г. Серада. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 552417 экз. Кошт у розніцу — 200 руб.


## Абаронцам Айчыны!

Паважаныя ветэраны вайны і Узброеных Сіл, салдаты, сяржанты, прапаршчыкі, афіцэры, генералы, рабочыя і служачыя Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь!

Ад імя Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і ад сябе асабіста горача і сардэчна віншую вас з Днём абаронцаў Айчыны.

Дзень 23 лютага стаў святам абаронцаў Айчыны па хадайніцтву ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і Узброеных Сіл, ваеннаслужачых, працоўных Рэспублікі Беларусь з мэтай захавання гераічных традыцый старэйшых пакаленняў, якія адстаялі гонар і незалежнасць Айчыны, выратавалі свет ад фашысцкага заняволення ў гады другой сусветнай вайны.

Беларускі народ за сваю шматвяковую гісторыю сумесна з іншымі брацкімі народамі прынёс на алтар Айчыны незлічоныя ахвяры ў імя свабоды і незалежнасці.

У маі бягучага года Рэспубліка Беларусь разам з іншымі краінамі СНД будзе адзначаць 50-годдзе Вялікай Перамогі. Нялёгкі сёння час, але, як і заўсёды, абаронцы Айчыны падзяляюць усе цяжкасці са сваім народам. Паслядоўна вырашаючы задачы станаўлення, Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь робяць усё магчымае для падтрымання надзейнага забеспячэння незалежнасці і суверэнітэту сваёй краіны.

Няхай Дзень абаронцаў Айчыны будзе сапраўдным святам яднання арміі і народа, згуртавання ўсіх патрыятычных сіл Беларусі ў імя яе будучыні.

Вечная слава загінуўшым за свабоду і незалежнасць Радзімы, нізкі паклон вам, нашы дарагія ветэраны!

Дазвольце пажадаць усім ветэранам вайны і Узброеных Сіл, моладзі, якая прыйшла ім на змену, усяму беларускаму народу моцнага здароўя, стойкасці ў гэты нялёгкі час і поспехаў дзеля росквіту суверэннай Рэспублікі Беларусь!

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.ГРЫБ.**

НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Кабінет — міністрам, пашана — героям, зямля — усім!

**Павел СТАСЕВІЧ**

Учарашні дзень у нашай краіне прайшоў, як кажуць, "пад знакам Барыса Ельцына".

Але нават гэтая важная палітычная падзея не збіла нашых парламентарыяў з наладжанага рытму работы. Ранак у Авальнай зале пачаўся з віншаванняў з днём нараджэння дэпутатаў Васіля Андрэевіча Саковіча і 80-гадовага юбіляра Васіля Ільіча Сінчыліна, а потым — і з традыцыйнага "Рознага".

У "Розным" выступілі дэпутаты: А.Трусаў, П.Садоўскі, М.Сукач, М.Крыжаноўскі, П.Холад, В.Чырун, В.Голубеў.

Потым парламентарыі вярнуліся да Закона аб Кабінеце Міністраў. Вярхоўны Савет прыняў яго яшчэ 30 студзеня, але Прэзідэнт не пагадзіўся з асобнымі палажэннямі і не падпісаў. Дэпутаты вырашылі быць вернымі свайму слову — і пацвердзілі сваё ранейшае рашэнне. Такім чынам Закон аб Кабінеце Міністраў у нас ёсць.

Старшыня Аграрнай камісіі А.Апацкі прадставіў змяненні ў Закон "Аб праве ўласнасці на зямлю". Сэнс іх: прадоўжыць да 1997 года тэрмін выкупу грамадзянамі сваіх зямельных участкаў па льготнай цане. Прычыны такія: а) не спраўляюцца землеўпарадчыя службы; б) надта ж дарагая дакументацыя — каля 170 тысяч рублёў, якія не кожны вясковы пенсіянер зараз знойдзе.

Наконт апошняга доваду былі пярэчанні з боку асобных дэпутатаў: цана па сённяшнім часе і так смешная, а калі няма грошай у бацькоў, то няхай дадуць дзеці, бо зямля ж ужо будзе **сваёю**, ёю можна будзе карыстацца як захочаш — прадаваць, дарыць і г.д.

Пытанне сапраўды важнае для кожнага беларуса. І таму дэпутаты вырашылі яго, як кажуць, па-людску: тэрмін прыватызацыі зямлі па льготных цэнах будзе прадоўжаны, а Аграрная камісія Вярхоўнага Савета яшчэ папрацуе над тым, каб і дакументы на зямлю сталі рабіцца хутчэй і танней.

Разабраўшыся з зямлёю, парламентарыі перайшлі да дзяржаўных узнагарод. Старшыня Камісіі па справах ветэранаў і інвалідаў М.Жукоўскі ўнёс на разгляд дэпутатаў законапраект аб статусе Герояў Савецкага Саюза, Герояў Сацыялістычнай Працы, поўных кавалераў ордэнаў Баявой і Працоўнай Славы.

Па сутнасці, гаворка ішла не столькі пра ўзнагароды, колькі пра льготы, якія павінны стаяць за імі: ад пенсій да курортнага абслугоўвання і бясплатнага забеспячэння лекамі.

Людзей, якія "падпадаюць" пад гэты закон, трэба сказаць, у нашай краіне не так і многа. І "ішоў" ён гладка, пакуль не "дайшоў" да, так бы мовіць, сямейных абставін.

— А при чем здесь жены?! — проста спытаў дэпутат У.Грыбанаў, маючы на ўвазе льготы, якія "рыкашэтам" мяркуецца "пакласці" і на "лепшыя палавіны" Герояў і поўных кавалераў.

Пытанне, як кажуць, трапіла "ў дзесятку", развярэдзіла душы. Дэпутат Л.Баршчэўскі нават у палемічным запале пакпіў: "Лаўрэнцій Берыя таксама быў тройчы Героем..."

На гэтым месцы старшынствуючаму на пасяджэнні І.Бамбізу прыйшлося цяжкавата: абурыліся ветэраны, пачаліся выкрыкі з месцаў, лёгкія "міжсабойчыкі"...

І.Бамбіза ў рэшце рэшт знайшоў выйсце: паставіў на галасаванне ўвесь закон цалкам, і ён 186 галасамі "за" быў зацверджаны. Да 50-годдзя Вялікай Перамогі ён, як падкрэсліў М.Жукоўскі, будзе добрым падарункам нашым ветэранам.

Ад Герояў і кавалераў парламентарыі перайшлі да дзяржаўных служачых. А дакладней — разгледзелі змяненні і дапаўненні ў Закон "Аб асновах службы ў дзяржаўным апараце". Галоўныя спрэчкі тут выклікаў артыкул, у якім асобам, што зараз працуюць у дзяржапараце, прапанавалася залічваць у працоўны стаж і тэрмін, які яны правялі на партыйнай рабоце. "А чым камсамол быў горшы за партыю? А прафсаюзная работа ўжо і не работа?" — вось, коратка кажучы, галоўныя пытанні, якія дэбатаваліся.

І ўсё ж, у рэшце рэшт, артыкул наконт работы ў партыйным апараце быў зацверджаны. За партыяй "пайшлі" камсамол і прафсаюзы, але ім напачатку не пашанцавала — галасоў "за" не хапіла. Дэпутаты перагаласавалі сваё рашэнне наконт камсамольскай і прафсаюзнай работы, і яно 177 галасамі "за" другі раз прайшло.

У другой палове дня сесія працягвала сваю работу.



# Беларусь шчыра вітае Барыса Ельцына

**МАСКВА.** Гаворачы перад адлётам у Мінск аб перспектывах інтэграцыі ў рамках СНД, Барыс Ельцын падкрэсліў, што адраджэння Саюза ў ранейшым выглядзе не будзе. "Гэта будзе хутчэй Еўрасаюз, калі кожная абсалютна самастойная краіна будзе інтэгравацца з іншымі. Гэта — новая якасць".

Крыху менш за паўтары гадзіны спатрэбілася прэзідэнцкаму самалёту, каб пераадолець адлегласць ад Масквы да беларускай сталіцы. Разам з Прэзідэнтам Расійскай Федэрацыі ў Беларусь прыбыла яго жонка Наіна Іосіфаўна. У саставе расійскай дэлегацыі — міністр замежных спраў Андрэй Козыраў, міністр абароны Павел Грачоў, намеснік Старшыні ўрада Аляксей Бальшакоў, іншыя афіцыйныя асобы.

❑

**МІНСК.** Ля трапа самалёта высокага госця сустрэў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. Дзяўчаты ў беларускіх нацыянальных касцюмах уручаюць Барысу Ельцыну хлеб-соль і кветкі. Аляксандр Лукашэнка і Барыс Ельцын праходзяць строй ганаровай варты. Гучаць гімны дзвюх дзяржаў.

На цырымоніі сустрэчы Прэзідэнта Расіі прысутнічалі Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мечыслаў Грыб, Прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, члены Кабінета Міністраў, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь Ігар Сапрыкін, кіраўнікі дыпламатычных прадстаўніцтваў, акрэдытаваных у Мінску, выканаўчы сакратар СНД Іван Каратчэня.

Тут жа знаходзіліся і шматлікія прадстаўнікі беларускіх, расійскіх і замежных сродкаў масавай інфармацыі. Праўда, журналістам, на жаль, не ўдалося задаць на лётным полі кіраўнікам дзвюх дзяржаў ніводнага пытання. Барыс Ельцын матываваў гэта рашэнне тым, што перад вылетам у Мінск у аэрапорце "Унукава-2" ён ужо адказаў на пытанні прадстаўнікоў прэсы.

З аэрапорта картэж машын адправіўся ў рэзідэнцыю "Заслаўе-1", дзе размясцілася расійская дэлегацыя.

❑

**ПЛОШЧА ПЕРАМОГІ.** Перад пачаткам афіцыйных перагавораў Барыс Ельцын наведаў плошчу Перамогі беларускай сталіцы, дзе адбылася ўрачыстая цырымонія ўскладання вянкоў да манумента ля Вечнага агню. Кіраўніка расійскай дзяржавы цёпла і сардэчна віталі мінчане, якія сабраліся тут. І хоць праграма візіту Барыса Ельцына ў Беларусь вельмі насычаная, усё ж прэзідэнты Расіі і Беларусі знайшлі час пагаварыць з групай ветэранаў. У ходзе гэтай імправізаванай гутаркі кіраўнікі дзяржаў падкрэслілі, што яны вельмі шануюць памяць савецкіх людзей, якія аддалі сваё жыццё за вызваленне Радзімы, выказалі словы падзякі ў адрас старэйшага пакалення, якое мужна і з цярпеннем успрымае ўсе цяперашнія цяжкасці. Барыс Ельцын і Аляксандр Лукашэнка лічаць: у якой бы краіне цяпер ні знаходзіліся ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, усе яны маюць права на дастойнае жыццё, клопаты і дапамогу з боку дзяржавы і грамадства. На думку кіраўнікоў дзяржаў, святкаванне 50-годдзя Перамогі над фашысцкімі захопнікамі будзе самай яркай падзеяй гэтага года.

❑

**ПЕРАГАВОРЫ.** Затым, згодна з праграмай візіту, адбылася гутарка Барыса Ельцына і Аляксандра Лукашэнкі. У ёй таксама ўдзельнічалі памочнік Прэзідэнта Расіі Дзмітрый Рурыкаў і памочнік Прэзідэнта Беларусі, доктар юрыдычных навук Урал Латыпаў.

❑

**УЗАЕМАРАЗУМЕННЕ ЗНОЙДЗЕНА.** У 16.00 па мясцовым часе закончыліся перагаворы адзін на адзін Барыса Ельцына і Аляксандра Лукашэнкі. Як стала вядома карэспандэнту Белінфарма з крыніц у Міністэрстве замежных спраў, прэзідэнты дагаварыліся падпісаць у той жа дзень два дакументы: Дагавор аб дружбе, добрасуседстве і супрацоўніцтве паміж Расійскай Федэрацыяй і Рэспублікай Беларусь, а таксама Пагадненне аб сумесных намаганнях па ахове дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь.

Адразу ж пасля заканчэння перагавораў Аляксандр Лукашэнка звярнуўся да членаў расійскай дэлегацыі. "Мы сёння бачылі, як мінчане выйшлі на вуліцы горада, каб вітаць дэлегацыю з брацкай Расіі. І таму я хачу заявіць, што да таго часу, пакуль наша каманда будзе знаходзіцца на чале ўлады, у рэспубліцы не будзе іншай пазіцыі, акрамя той, аб якой гаварылася на праведзеных перагаворах".

**Белінфарм.**



❑ *У час сустрэчы ў аэрапорце "Мінск-2".*

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, Белінфарм.**

НЕАФИШИРУЕМАЯ ЧАСТЬ ВИЗИТА

## Больших потерь не ожидается

110 российских и столько же белорусских флагов украсили Минск к приезду высокого гостя из России. Больше вывешивали только в честь президента США Билла Клинтона. Тогда на столичных фонарях закрепили по 150 пар звездно-полосатых и бело-красно-белых полотнищ. Правда, к вечеру часть американских флагов бесследно исчезла — осталось 90. Видимо, обрадованные приездом Клинтона минчане таким образом решили продемонстрировать свое почтение к заокеанской стране... Ожидаются ли потери и на этот раз в связи с визитом Бориса Ельцина?

Директор предприятия "Минскгороформление" Александр Бачище в разговоре с корреспондентом "Народной газеты" хоть и не исключил такой возможности, все же был настроен оптимистически: "На всякий случай российских флагов мы пошили с запасом, — заверил он. — К тому же часть флагов вечером во вторник снимем и вновь вывесим в среду утром. Так что я не думаю, что у нас будут большие потери".

**Олег ПАВЛОВ.**

## Что было на обед?

Узнать, что готовили к официальному обеду в президентской резиденции "Заславль", журналисту "Народной газеты" так и не удалось.

Предчувствие, что меня не пустят за ворота КПП, стали возникать уже при подъезде к загородной резиденции.

Был полдень. Трапеза планировалась на вечер. Но уже вереницей тянулись автоматчики. Кое-как до контрольно-пропускного пункта пробраться удалось. Там встретился улыбчивый лейтенант милиции, который на все вопросы отвечал просто и с достоинством: "Не положено. Это вам не ресторан. Освободите дорогу".

У нас было простое желание: узнать и рассказать читателям, какими национальными блюдами угощали высокого гостя, что вообще подается на стол во время подобных официальных визитов. Неужели это большая государственная тайна?

**Антон ЧЕКОВ.**

*Галина ЛУКАШЕНКО:*

## "В Минск меня никто не звал..."

**Алесь СИВЫЙ**

Российский президент Борис Ельцин прибыл в Минск вместе со своей супругой Наиной Иосифовной. А вот жены Александра Лукашенко во время встреч в ходе визита не наблюдалось. Я позвонил в деревню Рыжковичи, что возле Шклова, и трубку подняла сама Галина Родионовна Лукашенко.

**— Галина Родионовна, за последнее время что-то изменилось в вашей жизни?**

— У меня ничего.

**— Хозяйство прежнее?**

— И хозяйство прежнее, и работаю по-прежнему. Какие могут быть изменения?

**— Вы, наверное, в курсе, что российский президент приехал в Минск с женой. Почему первая леди Беларуси не там же?**

— Меня туда никто не звал.

**— Александр Григорьевич звонит, приезжает?**

— Звонит, но уже давно не приезжал.

**— Говорят, ваш дом здоровенным забором обнесли.**

— Неправда. Забор как забор. Только кирпичный.

**— Тяжело, наверное, и на работу ходить, и по хозяйству хлопотать?**

— Без работы тоже скучно сидеть. А так я постоянно чем-то занята.

**— В Минск вы не собираетесь переезжать на жительство?**

— Нет.

**— Спасибо, Галина Родионовна, что уделили пару минут.**

## Жаль, Зверевой нет!

**Алесь СИВЫЙ**

***Визит российского президента в Беларусь окрашен не только в официальные тона. Общеизвестно, что Борис Ельцин бо-о-ольшой любитель тенниса, а посему не прочь помахать ракеткой и в Минске.***

Позавчера под вечер в минский Дворец тенниса приезжала свита из КГБ, которая "с точностью до миллиметра" просмотрела и просчитала все ходы-выходы, "сфотографировала" планировочку и "сложность объекта". Как сообщил информированный источник, чистоту зала и покрытие Дворца охранники не смотрели.

По словам того же источника, недавно, во время приезда в Минск министра иностранных дел России Андрея Козырева, последний выходил на корты в спаринг со своим белорусским коллегой Владимиром Сенько. Очевидцы утверждают, что белорус по мастерству был на порядок выше россиянина, но дипломатический такт не позволил обижать гостя и Сенько "сдал" игру. Впрочем, Козырев для своих лет тоже смотрелся молодцом.

Что касается Бориса Николаевича, то здесь возникли определенные проблемы со спаринг-партнером. Шамиль Тарпищев, советник по спорту российского президента, неожиданно заболел и остался в Москве. Александр Лукашенко и его окружение тоже не составят компанию Ельцину. Одна надежда на Сергея Леонюка, белоруса, чемпиона СССР по теннису, ныне живущего в Москве, который и должен выйти на корт в паре с Николаевичем, если он того захочет.

"У нас Дворец всегда в порядке, — сказали мне работники Дворца тенниса. — Может быть, прибрали к визиту чуток больше обычного. И еще нам сказали, что Козырев будет играть точно, а с Ельциным пока ничего неизвестно".

Остается только сожалеть, что белорусская теннисистка Наталья Зверева сейчас не дома. Она бы эту партию не "сдала"!

**(Продолжение на 2-й стр.)**

## Справаздача Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.Грыба на пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета 20 лютага 1995 года

Паважаныя дэпутаты, члены ўрада, запрошаныя на пасяджэнне!

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь уступіў у заключны этап сваёй дзейнасці, і менавіта гэта акалічнасць садзейнічае як абгрунтаванай, так і не заўсёды канструктыўнай яго крытыцы з розных бакоў. Парламент стаў, асабліва ў апошнія месяцы, нейкім маланкаадводам усіх бед і непрыемнасцей нашага грамадства.

Так, Вярхоўны Савет, вядома ж, не ўсё паспеў зрабіць, не змог пазбегнуць пэўных памылак, многія з якіх потым выпраўляліся. Але мы ўсе — дзеці свайго часу. Нашы поспехі, здабыткі і недаробкі шмат у чым абумоўлены яго рэаліямі.

У якіх жа ўмовах дзейнічаў наш Вярхоўны Савет? За пяць гадоў яго паўнамоцтваў рэспубліка прайшла цэлую гістарычную эпоху. Нагадаю.

Выбары ў Вярхоўны Савет праходзілі ў часы існавання Савецкага Саюза. Але асноўная большасць дэпутатаў была абрана на дэмакратычнай аснове, без умяшання КПБ. Дэкларацыя аб суверэнітэце нашай дзяржавы была прынята Вярхоўным Саветам амаль у апошнюю чаргу з усіх савецкіх рэспублік, ва ўсякім разе пасля Расіі і Украіны. Затым распаўся Савецкі Саюз. У гэтых сценах выпрацоўваліся нашы адносіны да ўсіх гэтых падзей, у тым ліку і да так званага ГКЧП. Было, зразумела, і іншае.

Мы вызначылі накірункі пераходу да рынкавай эканомікі. Вялікай падзеяй у жыцці Беларусі стала прыняцце новай Канстытуцыі. Вярхоўным Саветам была створана аснова заканадаўчай базы нашай дзяржавы.

Як бачыце, сітуацыя мянялася амаль імгненна. Яна патрабавала адпаведнай рэакцыі і ад Вярхоўнага Савета, безумоўна, зрабіла свой адбітак на асноўныя накірункі, змест і ўмовы яго дзейнасці.

Першы этап работы Вярхоўнага Савета быў абумоўлены як адсутнасцю дастатковага вопыту, так і неабходнасцю хуткага рэагавання на вышэйназваныя падзеі. Гэта перашкаджала выпрацоўцы цэласнай канцэпцыі яго работы.

На другім этапе наш парламент вызначаецца большай сталасцю і разважлівасцю, таму што ўсе мы, дэпутаты, набылі неблагі вопыт, някепскія веды, напрацавалі трывалую заканадаўчую базу.

Бурны паток часу — часу складанага, супярэчлівага — аказаў сваё ўздзеянне на месца і ролю Вярхоўнага Савета ў палітычнай сістэме нашай дзяржавы. Прычым гэтая роля на працягу пяці гадоў яго паўнамоцтваў мянялася фактычна двойчы. Першы раз — пасля таго як сышла з палітычнай арэны Камуністычная партыя як кіруючая сіла грамадства. Тады наш парламент да сваіх заканадаўчых функцый дадаў і частку выканаўча-дырэктыўных, якія раней выконвала КПБ.

У краіне назіралася безуладдзе і ўсёдазволенасць. КПБ яшчэ да яе забароны фактычна ўжо не кіравала ні палітычным, ні гаспадарчым жыццём. Таму Вярхоўны Савет, каб узнавіць кіраванне краінай, вымушаны быў ісці хуткімі тэмпамі да вырашэння пытання аб дзяржаўным кіраванні, навядзенні парадку праз прыняцце Асноўнага Закона — Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

З прыняццем новай Канстытуцыі другі раз змяніліся месца і роля Вярхоўнага Савета. Перад намі паўстала новая і вельмі складаная праблема раздзялення ўлад, іх канструктыўнага ўзаемадзеяння. Гістарычны вопыт сведчыць, што ні ў адной дзяржаве яна не вырашалася лёгка і бязбольна. Усе вы добра ведаеце, якія разбуральна-рэактыўныя абароты магла набыць гэта праблема і ў нас. Але, на гонар гэтага Вярхоўнага Савета, ён прадэманстраваў розум, гібкасць і велізарную вытрымку, у выніку чаго магчымае супрацьстаянне не вылілася ў нацыянальную трагедыю.

Мяркую, гэта па заслугах ацэніць потым наша гісторыя. Але вывад неабходна зрабіць і нам. Ён заключаецца ў тым, каб аператыўна, не адкладваючы, і на глыбокай навуковай аснове пачаць тэарэтычную і практычную напрацоўку прававых, палітычных, маральных, псіхалагічных сродкаў і прыёмаў, ствараць прававыя калідоры для кожнай галіны ўлады, каб кожны не толькі ведаў свае правы і абавязкі, але і кіраваўся імі ў жыцці. Гэта дапаможа зняць магчымае супрацьстаянне заканадаўчай і выканаўчай улад, розных партыйных і прафесійных фарміраванняў, сацыяльных класаў, слаёў і груп, нацыянальна-этнічных утварэнняў. Зразумела, тут, як і ў іншых справах, нам не абысціся без дапамогі вучоных.

Дарэчы, у апошні час мы атрымліваем трывалую навукова-юрыдычную падпітку ад створанага пры Вярхоўным Савеце Інстытута дзяржаўнага будаўніцтва і заканадаўства, але ў той жа час больш востра адчулі недахоп такой падпіткі ў галіне палітыкі, паліталогіі. Вярхоўны Савет — перш за ўсё гэта вышэйшы прадстаўнічы орган дзяржавы, і неабходна падумаць над тым, каб узмацніць навуковае забеспячэнне гэтага боку яго дзейнасці.

Наша грамадства, ахопленае эканамічным крызісам, знаходзіцца зараз на цяжкім этапе пераходу да дэмакратыі. Дэмакратыя — галоўны накірунак палітычнага развіцця краіны, які ажыццяўляецца на аснове разнастайнасці палітычных інстытутаў, ідэалогій і поглядаў. Ён замацаваны канстытуцыйна.

На Беларусі пачала складвацца рэальная шматпартыйнасць (Мінюстам зараз зарэгістравана 29 палітычных партый). Паступова ўсталёўваецца плюралізм думак. У нас загучалі такія словы як "прававая дзяржава", "цывільнае грамадства", "кампраміс", "кансенсус" і іншыя набыткі дэмакратыі. Ці ж гэта не мы з вамі стаялі ля калыскі такіх пераўтварэнняў? Дарэчы, важкім крокам на шляху ў гэтым напрамку з'явілася прыняцце законаў "Аб палітычных партыях" і "Аб грамадскіх аб'яднаннях". Тым самым у палітычным плане Рэспубліка Беларусь вызначылася як цывілізаваная дзяржава.

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

# Справаздача Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.Грыба на пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета 20 лютага 1995 года

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Але няма пакуль што ў нас і дэмакратычнай дзяржавы ў поўным сэнсе гэтага слова. Я разумею гэта так: дэмакратычная дзяржава або ёсць, або яе няма. На мой погляд, частковай дэмакратыі не бывае, і мы з вамі, паважаныя дэпутаты, пакуль што ствараем такую дэмакратычную дзяржаву, ідучы насуперак усім, хто не жадае гэтага.

Як я ўжо адзначаў, дзякуючы рашэнню Вярхоўнага Савета ў беларускі лексікон увайшло яшчэ адно слова вялікага зместу — гэта слова суверэнітэт. Яно паставіла рэспубліку перад глабальнымі праблемамі, якімі раней мы самастойна не займаліся: пабудова палітычнай сістэмы, стварэнне арміі, ажыццяўленне знешняй палітыкі, нейтральнага статусу краіны і іншае.

Разуменне суверэнітэту і практычныя падыходы да яго паспелі ўжо выклікаць нямала спрэчных думак у сценах парламента і наогул у беларускім грамадстве, неаднойчы ўздымалі палітычны напал і ў гэтай зале. Вопыт многіх краін паказвае, што ў наш час важнейшай умовай незалежнасці і стабільнасці з'яўляецца вырашэнне сацыяльна-эканамічных і нацыянальных праблем.

І яшчэ адно меркаванне з нагоды нейтральнага статусу нашай краіны. Пэўна, нельга не прымаць да ўвагі тую акалічнасць, што бліжэйшыя нашы суседзі, суседзі Беларусі, такія дзяржавы, як Польшча, краіны Балтыі, робяць настойлівыя захады, каб укараніцца ў структуры бяспекі НАТА ці хаця б заручыцца ваеннымі гарантыямі з боку Паўночнаатлантычнага саюза, і, як я разумею, гэта іх унутраныя справы ў першую чаргу. Але такая сітуацыя лагічна вядзе да істотнага пераразмеркавання сіл, да новай сістэмы іх балансу. І тут магчымы паўтор у новых формах традыцыйнай еўрапейскай палітыкі саюзаў і кааліцый.

Нам трэба ўлічваць гэта, а таксама і тое, што ўступленне ў НАТА Польшчы і рэспублік Балтыі зноў можа вылучыць Беларусь на пярэдні край барацьбы, процістаяння, магчымага стварэння як ваенных, так і палітычных блокаў. І да гэтага ставіцца абыякава, на мой погляд, мы з вамі не павінны.

Што датычыцца знешняй палітыкі, то тут неабходна дасканала, канцэптуальна распрацаваць і вызначыць прыярытэты. Безумоўна, і заканадаўчай, і выканаўчай уладам ужо час мець адказы, напрыклад, на такое пытанне: дзе месца Расіі, Кітая, ЗША, Германіі, краін Балтыі, Польшчы ў знешняй палітыцы Беларусі і наадварот? Інакш дзяржаўныя органы не змогуць ажыццяўляць зладжаную і эфектыўную палітыку.

У гэтай сувязі і нам, і асабліва новаму парламенту, і выканаўчай уладзе давядзецца яшчэ шмат папрацаваць над тым, каб маладая Рэспубліка Беларусь добра ўсвядоміла сябе як суб'ект міжнародных адносін. Вельмі актуальнай з'яўляецца задача распрацоўкі нацыянальнай, дзяржаўнай ідэалогіі як сукупнасці ўяўленняў народа аб сваім месцы і ролі ў свеце, нацыянальных інтарэсах Беларусі і мэтах дзяржаўнай палітыкі, шляхах і сродках іх дасягнення.

У мінулым годзе значна пашырыліся міжнародныя сувязі Вярхоўнага Савета. Удалося скрануць з мёртвай кропкі міжпарламенцкі абмен на ўзроўні створаных Прэзідыумам рабочых груп па супрацоўніцтву з парламентамі іншых краін. Нядаўна мы прынялі рашэнне аб уступленні ў Міжпарламенцкі саюз. Сёння па гэтаму пытанню правялі канферэнцыю. Гэта ствараe дадатковыя магчымасці для ажыццяўлення двухбаковых міжпарламенцкіх кантактаў.

Асноўнай мэтай міжнародных сувязей Вярхоўнага Савета з'яўляецца вывучэнне вопыту дзяржаўнага будаўніцтва і дэмакратычнага пераўтварэння грамадства, узаемадзеяння заканадаўчай і выканаўчай улад, эканамічных рэформ, фінансава-крэдытнай палітыкі і прыцягнення замежных інвестыцый, параўнальнага аналізу заканадаўства іншых краін з нашым заканадаўствам.

На жаль, не ўсе візіты мелі дастатковую эфектыўнасць. Лічу, што неабходна распрацаваць меры для яе павышэння.

Дэлегацыі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прымалі ўдзел у рабоце розных міжпарламенцкіх арганізацый, у тым ліку ў чатырох пасяджэннях і сямі семінарах Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы, у дзвюх сесіях і шасці семінарах Паўночнаатлантычнай Асамблеі, у пасяджэнні Парламенцкай Асамблеі арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (былая НБСЕ). Прадстаўнікі Вярхоўнага Савета ўдзельнічалі ў распрацоўцы і абмеркаванні міжнародных праграм, узгадненні іншых розных пытанняў, што хвалююць сёння сусветную супольнасць.

138 дэпутатаў удзельнічалі ў замежных паездках менавіта па лініі Вярхоўнага Савета.

Адбыліся візіты дэлегацый Вярхоўнага Савета на вышэйшым узроўні ў Румынію, Швейцарыю, ЗША, Польшчу, на Украіну, а таксама ўпершыню ў Еўрапарламент і Вялікабрытанію. Усе гэтыя паездкі мелі на мэце наладжванне палітычнага і эканамічнага супрацоўніцтва, прыцягненне замежных інвестыцый, вырашэнне праблем раззбраення на Беларусі, ліквідацыі вынікаў аварыі на ЧАЭС і іншае. Напрыклад, падчас візіту ў ЗША адбыліся сустрэчы з кіраўнікамі дзяржаўнага дэпартамента і Міністэрства абароны гэтай краіны, на якіх быў вырашаны шэраг пытанняў па хутчэйшаму выкананню праграмы Нана-Лугара для Беларусі. Са старшынёй 49-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН абмяркоўвалася магчымасць зніжэння нашага ўзносу ў бюджэт гэтай паважанай арганізацыі, што паспрыяла несумненна станоўчаму вырашэнню гэтай праблемы.

Такім чынам, голас Беларусі сёння ўжо гучыць у свеце. Пачаўшы практычна з нуля, мы пакідаем нашым пераемнікам даволі добра наладжаную сістэму міжнародных сувязей, якую яны могуць паспяхова выкарыстоўваць і пашыраць на карысць нашага народа.

Паважаныя дэпутаты!

Гэтыя эпахальныя змены, якія адбыліся за апошнія гады, не маглі не адбіцца і на стане нашай эканомікі. Увесь клубок праблем выліўся ў эканамічны крызіс. Вярхоўным Саветам быў прыняты шэраг заканадаўчых актаў, накіраваных на яго пераадоленне.

Але спробы па пераадоленню эканамічнага крызісу, на жаль, пакуль што не прывялі да станоўчых вынікаў. Больш таго, ён набывае характар, які не толькі пагражае дзяржаўнаму суверэнітэту, але можа мець самыя непрадказальныя вынікі з пункту гледжання сацыяльных канфліктаў.

Усяго некалькі лічбаў. Падзенне валавога ўнутранага прадукту за 1994 год склала 20 працэнтаў, зводны індэкс спажывецкіх цэн на тавары і паслугі ўзрос у 23,2 раза, у тым ліку ў снежні — на 31,3 працэнта. Рэальныя грашовыя даходы насельніцтва скараціліся на 15 працэнтаў. Фінансавы стан асноўнай масы прадпрыемстваў працягвае заставацца надзвычай складаным. Аб'ём крэдыторскай запазычанасці прадпрыемстваў і арганізацый рэспублікі наблізіўся да гадавога аб'ёму валавога ўнутранага прадукту.

Сярэдняя заработная плата далёка не задавальняе патрэб мінімальнага спажывецкага бюджэту, а мінімальная заработная плата не забяспечвае нават выдаткаў на транспарт.

Трэба адзначыць, што рэалізацыя праграмы неадкладных мер па выхаду эканомікі Рэспублікі Беларусь з крызісу дазволіла крыху запаволіць тэмпы эканамічнага падзення, палепшыць кіруемасць бюджэтам, скараціць крэдытаванне яго дэфіцыту. І з'явілася надзея, што ўжо ў гэтым годзе нам удасца дасягнуць невялікіх поспехаў. Хаця і сама праграма, як паказала абмеркаванне яе выканання на пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета ў пачатку гэтага года, не выконваецца ва ўстаноўленыя тэрміны і ў поўным аб'ёме.

Стэрэатыпныя паводзіны ўладавага апарату, для якога галоўным сродкам кіравання пакуль што застаецца загад, а не глыбокі аналіз сітуацыі і выпрацоўка адпаведных эфектыўных мер па пераадоленню тых ці іншых адмоўных тэндэнцый, з'яўляюцца вельмі сур'ёзнай перашкодай на шляху пабудовы прынцыпова новых эканамічных адносін.

Аналіз эканамічных працэсаў у Рэспубліцы Беларусь паказвае, што спробы эканамічнага рэгулявання з пункту гледжання стратэгіі часта супярэчлівыя, не працуюць ні рынкавыя, ні адміністрацыйныя метады кіравання. Гэта, у першую чаргу, атрымліваецца таму, што ў нас няма дакладнага ўяўлення аб той эканамічнай мадэлі, да якой належыць імкнуцца, стратэгіі і тактыкі рэфармавання. Таму ўзнікае пільная неабходнасць у распрацоўцы стратэгіі развіцця нашай эканомікі. Без гэтага вельмі складана суадносіць прымаемыя тактычныя рашэнні з галоўнымі напрамкамі яе рэфармавання.

Пры гэтым мы павінны з усёй шчырасцю вызначыцца: праблемы нашай эканомікі з'яўляюцца следствам пралікаў і памылак ці гэта вынікі неадэкватнага выбару накірункаў руху, знявагі тэндэнцый развіцця сусветнай эканомікі?

Але ў нас гэтыя накірункі выразна не вырашаны. Самым доўгім шляхам для людзей з'яўляецца той, калі людзі не ведаюць, куды яны ідуць, і не ведаюць, куды ім трэба ісці.

Як паказала адно з апошніх пасяджэнняў Эканамічнага савета пры Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, дзеючае заканадаўства выконваецца толькі часткова і не забяспечвае рэфармаванне эканомікі. Вельмі наспела неабходнасць у больш актыўнай дзейнасці законаў па развіццю прадпрымальніцтва, прычым не толькі ў прыватызаваных прадпрыемствах, але і ў дзяржаўных, актаў, якія рэгулююць манапалізм, развіццё канкурэнцыі, ступень дзяржаўнага ўмяшання ў эканоміку.

Прынцыпова важным з'яўляецца ўдасканаленне сістэмы падаткаабкладання. Як сведчыць сусветная практыка, нельга дапускаць адабрання прыбытку суб'ектаў гаспадарання ў бюджэт звыш 40 працэнтаў, а льготы па падаткаабкладанню павінны быць абмежаваны заканадаўча. Падатковая і крэдытная палітыка павінна быць накіравана на развіццё прыярытэтных галін эканомікі.

Неабходны пошук эфектыўных сацыяльных амартызатараў, здольных стрымаць праяўленні сацыяльнага азлаблення і незадаволенасці.

У галіне занятасці, на мой погляд, на маю думку, трэба наступнае:

стымуляваць прадпрыемствы, якія ствараюць новыя рабочыя месцы, выпрацоўваюць спажывецкія тавары і арганізуюць перападрыхтоўку кадраў;

эканамічна падтрымаць органы мясцовага самакіравання, якія прыцягваюць вызваляемых работнікаў да грамадскіх работ;

распрацаваць сістэму мер па сацыяльнай абароне беспрацоўных.

У галіне палітыкі даходаў трэба:

паставіць заработную плату ў непасрэдную залежнасць ад вынікаў працы. У сённяшні час з заработнай платай атрымліваюцца вельмі і вельмі вялікія недарэчнасці. У тым, што грамадзяне аплачваюць усе свае паслугі, якія аказваюць ім на падставе рынкавых адносін паміж людзьмі і дзяржавай, а заработную плату атрымліваюць па сацыялістычнаму прынцыпу. Доля заработнай платы ў сабекошце прадукцыі пастаянна зніжаецца і пастаянна падае. І ўзнікае пытанне, ці можа чалавек пры малой заработнай плаце выпрацоўваць больш якасную і ў большай колькасці прадукцыю? Не можа і не будзе гэтага рабіць. Таму сёння трэба тэрмінова перагледзець сістэму заработнай платы ва ўсіх галінах нашай дзейнасці, асабліва ў першую чаргу, як я лічу, у сельскай гаспадарцы;

трэба заканадаўча ўстанавіць пражытачны мінімум з дакладнай методыкай яго разліку;

неадкладна трэба перагледзець пенсіённае заканадаўства, я ўжо казаў вам аб гэтым, што сёння яно ў асноўным грунтуецца на падставе зыходзячы з 10 мінімальных заработных плат. Для вайскоўцаў — гэта 10 мінімальных заработных плат, для грамадзян — толькі 6. Калі мінімальная заработная плата страціла свой сэнс як такая, і падставы гэтай няма сёння пад пенсіённым заканадаўствам такой, якая павінна быць. Калі гэтага мы не зробім, мы не вырашым гэтае пытанне.

Адной з асноўных задач, якія стаяць перад эканомікай, з'яўляецца прыцягненне інвестыцый. Нельга абмяжоўвацца толькі законам Рэспублікі Беларусь аб замежных інвестыцыях, ён павінен быць саставной часткай цэлага комплексу інвестыцыйнага заканадаўства. Неабходна забяспечыць стыкоўку інвестыцыйнага заканадаўства з законамі Рэспублікі Беларусь аб праве ўласнасці на зямлю, аб уласнасці, аб прадпрыемствах, аб раздзяржаўленні і прыватызацыі і інш.

Што датычыцца аграрнай палітыкі, то, на маю думку, у адпаведнасці з праграмай неадкладных мер па выхаду эканомікі Рэспублікі Беларусь з крызісу трэба заканадаўча ўрэгуляваць адносіны, звязаныя з прыватнай уласнасцю на зямлю.

Раней прынятыя намаганні па дасягненню парытэту цэн паміж прадукцыяй сельскай гаспадаркі і прамысловасці пакуль што не выконваюцца.

Удасканаленне заканадаўства ў галіне знешнеэканамічнай дзейнасці павінна быць накіравана, з аднаго боку, на прыцягненне замежнага капіталу, з другога — на стымуляванне айчыннай экспартнай вытворчасці.

Такім чынам, на маю думку, будзе закладзена трывалая база самастойнай эканамічнай палітыкі Беларусі, і агульныя намаганні ўсіх галін улады, памножаныя на лепшыя якасці беларускага народа, на яго працавітасць, павінны даць, на маю думку, станоўчыя вынікі.

Вярхоўны Савет за перыяд сваёй дзейнасці ў гэтым скліканні прыняў 1571 заканадаўчы акт: 351 закон і 1220 пастаноў. Напружана працаваў і Прэзідыум Вярхоўнага Савета. За ўвесь перыяд праведзена больш 120 яго пасяджэнняў, прынята звыш 2 тысяч указаў і пастаноў. Упэўнены, што такой маштабнай работы Вярхоўны Савет ніводнага склікання да нас не выконваў. Толькі ў ходзе шаснаццатай сесіі за кожны рабочы тыдзень Вярхоўны Савет прымае і разглядае да 30 заканадаўчых актаў.

У гэтай сувязі важным у плане будаўніцтва прававой дзяржавы стала прыняцце законаў "Аб выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" і "Аб Канстытуцыйным Судзе". У адпаведнасці з гэтымі законамі ўсенародна абраны Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, Вярхоўным Саветам выбраны члены Канстытуцыйнага Суда. Своечасова разгледжаны і падтрыманы прапановы Прэзідэнта па фарміраванню Кабінета Міністраў. Такім чынам, у адпаведнасці з Канстытуцыяй завершана фарміраванне вышэйшых органаў дзяржаўнай улады і кіравання. Праўда, трэба заўважыць, што працэс фарміравання вышэйназваных органаў улады і кіравання прайшоў больш-менш паспяхова, а вось арганізацыя зладжанай іх дзейнасці патрабуе яшчэ нямала намаганняў.

Нядаўна прыняты законы "Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь", "Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь", "Аб Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь". Падзел улад — справа складаная, таму нам давядзецца ўдасканальваць яшчэ гэтыя, а таксама і іншыя законы.

Неабходна вырашаць і вельмі складаную праблему ўзаемаадносін вышэйшых дзяржаўных органаў з органамі мясцовага кіравання і самакіравання. У Канстытуцыі вызначана толькі кампетэнцыя мясцовых Саветаў, а якім чынам ажыццяўляецца мясцовае кіраванне і самакіраванне, дакладна пакуль што не акрэслена — Закон не ўступіў у сілу.

Хацелася б засяродзіць вашу ўвагу і на наступным. Законам "Аб парадку ўступлення ў сілу Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь" прадугледжана, што на працягу двух гадоў пасля ўступлення ў сілу Канстытуцыі павінны быць прыняты ўказаныя ў ёй законы. Трэба неадкладна рыхтаваць іх праекты і як мага больш прыняць гэтым Вярхоўным Саветам.

Варта нагадаць, што асобныя палажэнні многіх дзеючых заканадаўчых актаў зараз знаходзяцца ў супярэчнасці з Канстытуцыяй і іх неабходна тэрмінова мяняць. Але гэта не простае змяненне тэкстаў, за кожным з іх — змяненне палітычнага, сацыяльнага і эканамічнага становішча рэспублікі, адносін паміж грамадзянамі, дзяржаўнымі органамі, прадпрыемствамі і ўстановамі.

Часта ў рэспубліцы гучыць пытанне аб тым, якую дзяржаву і якое грамадства мы будуем. Канстытуцыя дала адказ на гэтае пытанне аб тым, якую дзяржаву мы будуем: дэмакратычную, сацыяльную, прававую. Гэта значыць, што мы ставім за мэту стварэнне ўмоў для свабоднага і годнага развіцця асобы і павінны кіравацца ў заканатворчасці воляй і інтарэсамі грамадзян, гарантаваць рэалізацыю іх правоў і іх свабод.

Аднак дэклараваць гэтыя мэты пакуль што недастаткова. Адной Канстытуцыяй для ўсталявання прававой дзяржавы не абысціся. Неабходна на падставе Канстытуцыі стварыць устойлівую і эфектыўную заканадаўчую базу па ўсіх напрамках жыццядзейнасці рэспублікі. Патрэбна дакладнае вызначэнне сэнсу і тлумачэнне асобных артыкулаў Канстытуцыі. Гэтай справай Вярхоўны Савет павінен пастаянна займацца.

Аднак трэба прызнаць, што заканатворчы працэс намі яшчэ не даведзены да дасканаласці. На стадыі падрыхтоўкі праектаў законаў не заўсёды глыбока праводзіцца іх эканамічная, фінансавая і прававая экспертыза, часта ў іх не ўлічваюцца слушныя прапановы з месцаў, яны перасталі публікавацца ў друку пасля прыняцця ў першым чытанні. Нярэдка законапраекты да разгляду на пленарных пасяджэннях Вярхоўнага Савета не абмяркоўваюцца ў іншых зацікаўленых пастаянных камісіях, органах выканаўчай улады, што часам прыводзіць да мноства дадатковых пытанняў і прапаноў нават членаў той камісіі, якая ўносіць гэты законапраект.

На вялікі жаль, не адчуваецца станоўчых змен, калі ў камісіі дадаткова да раней працуючых 63 дэпутатаў перайшлі на прафесійную работу яшчэ каля 40. І справа тут у тым, што Прэзідыум, кіраўнікі камісій, ну, і я, як Старшыня, не дамагліся зладжанасці дзеянняў дэпутацкага корпуса, які працуе на пастаяннай аснове, не змаглі аб'яднаць іх намаганні і творчы патэнцыял на якасную падрыхтоўку законапраектаў, ажыццяўленне належнага кантролю за выкананнем законаў.

Я ўжо гаварыў, што ў апошнія гады прынята вялікая колькасць самастойных законаў, якія б цалкам маглі быць часткамі (главамі) кодэксаў або іншых больш буйных законаў. Але, на маю думку, неабходна больш сур'ёзна падыходзіць да гэтага аспекту заканатворчасці і праводзіць работу па кадыфікацыі і сістэматызацыі заканадаўства ва ўсіх галінах права на падставе новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Тут нам трэба добра падумаць. Мяркую, што адным са сродкаў забеспячэння зладжанасці заканадаўства магло б стаць прыняцце спецыяльнага закона аб парадку распрацоўкі і прыняцця нарматыўных актаў у Рэспубліцы Беларусь.

Патрабуе самай пільнай увагі працэс планавання заканатворчай дзейнасці.

Трэба заўважыць, што да гэтага часу арыенціровачны план законапраектных работ распрацоўваўся толькі на адзін год. Пры гэтым ён ніколі не выконваўся поўнасцю. Перспектыўнага планавання фактычна не існавала. У сувязі з прыняццем Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь склаліся перадумовы для пераходу да перспектыўнага (два-тры гады і больш) планавання заканадаўчай дзейнасці. Такое планаванне, напрыклад, на 1995-2000 гады будзе каштоўней ужо тым, што дазволіць бачыць стан заканадаўства Рэспублікі Беларусь у комплексе, вызначыць яго перспектыву. Тады не будзе рабіцца тое, што робіцца ў нас кожны панядзелак па ўключэнню дадатковых пытанняў у павестку дня.

Паважаныя дэпутаты!

Перамены, што адбываюцца сёння ў палітычным, эканамічным і грамадскім жыцці Рэспублікі Беларусь, выклікаюць жывую і зацікаўленую рэакцыю людзей. Аб гэтым сведчаць іх звароты ў Вярхоўны Савет. У 1994 годзе паступіла 22 з палавінай тысячы зваротаў грамадзян у Вярхоўны Савет, з іх 17 тысяч — пісьмовых і 5 з паловай тысяч — вусных. У іх, як у люстэрку, бачны адносіны грамадзян да эканамічных і палітычных рэформаў, якія праводзяцца ў дзяржаве.

У зваротах выражалася занепакоенасць людзей нарастаннем крызісных з'яў і зніжэннем агульнага ўзроўню жыцця. Аўтары пісьмаў падкрэслівалі, што разбурэнне эканамічных сувязей паміж рэгіёнамі, спад вытворчасці, інфляцыя, павелічэнне беспрацоўя выклікаюць няўпэўненасць у заўтрашнім дні, садзейнічаюць росту сацыяльнай напружанасці.

Рэгулярна ажыццяўляўся асабісты прыём грамадзян Старшынёй Вярхоўнага Савета, яго намеснікамі і кіраўніцтвам пастаянных камісій, якімі былі прыняты 922 чалавекі. Непасрэдна мною было прынята 222 чалавекі. Усё гэта ў значнай ступені садзейнічала больш аператыўнаму вырашэнню многіх заяў, ліквідацыі шэрагу прычын, што выклікалі скаргі і паўторныя звароты. Канструктыўныя прапановы выкарыстоўваліся пастаяннымі камісіямі, дэпутатамі для распрацоўкі законаў, падрыхтоўкі матэрыялаў на сесію Вярхоўнага Савета, пасяджэнні яго Прэзідыума.

Шаноўныя дэпутаты!

Я не ставіў сваёй задачай рабіць храналагічны пералік шматлікіх спраў, якімі займаўся наш Вярхоўны Савет. Пра многае я не сказаў. Галоўнае — паспрабаваў даць крытычны аналіз зробленага, вызначыць тое, што мы не паспелі або не змаглі зрабіць і што, на маю думку, можа быць карысным новаму складу парламента.

Аднак на заключэнне не магу не заўважыць, што шматлікія выпады ў адрас Вярхоўнага Савета, якія носяць амаль правакацыйны характар (асабліва ў газетах і іншых сродках масавай інфармацыі) не могуць садзейнічаць кансалідацыі грамадства, асабліва напярэдадні новых выбараў у Вярхоўны Савет. Я асабіста аб гэтым вельмі і вельмі шкадую, бо гэта можа мець непрадказальныя і сумныя вынікі, адмоўна адбіцца на будучыні дзяржавы і беларускага народа, можа атрымаць негатыўную ацэнку сусветнага супольніцтва. Каб гэтага не адбылося, трэба ўсім дзяржаўным палітыкам, грамадскім дзеячам скончыць свае тэндэнцыйныя апеляцыі да народа, перастаць вышукваць ворагаў у сваёй Айчыне. Заклікаю таксама ўсіх, хто мае намер выстаўляць свае кандыдатуры на выбары, не ўзвінчваць людзей, з павагай адносіцца да сваіх сапернікаў і да сваіх апанентаў. Гэта зробіць вам гонар.

Мушу яшчэ раз вярнуцца да сваёй прапановы, якая прагучала ўжо восенню мінулага года на сустрэчы з лідэрамі палітычных партый і рухаў. Я цвёрда ўпэўнены, што ў сённяшняй сітуацыі нам неабходна як мага хутчэй дамагчыся грамадскай згоды, каб у нашай краіне панаваў мір, каб новы парламент пачаў сваю работу ў абстаноўцы палітычнай стабільнасці і кансалідацыі нашага паважанага грамадства.

У Вярхоўнага Савета дванаццатага склікання засталіся лічаныя месяцы работы. Мяркую, што ў гэты перыяд мы павінны працаваць асабліва прадуктыўна з тым, каб пакінуць не толькі добрыя ўспаміны аб сабе, але і трывалую базу для нашых пераемнікаў. Для такой прадуктыўнай працы ў дэпутатаў ёсць усё неабходнае — набыты вопыт, добра набраны тэмп на шаснаццатай сесіі, ды і жадання, лічу, не пазычаць.

Дзякуй, паважаныя дэпутаты, за ўвагу!

## СТАЛА ВЯДОМА

### Віцебск кліча "карабейнікаў"

*Рашэнне правесці ў Віцебску міжнародны веснавы кірмаш прыняў аблвыканкам.*

Мерапрыемства, якое афіцыйна называецца "Кантакт-выстаўка", адбудзецца 21 сакавіка. На яго запрашаюцца вытворцы тавараў з Расіі, Украіны, Малдовы, краін Балтыі, а таксама Польшчы, Германіі, Італіі, Турцыі. Натуральна, будзе прадстаўлена ўсё лепшае, што выпускаюць прадпрыемствы Віцебшчыны і ўсёй рэспублікі. Паводле слоў намесніка старшыні аблвыканкама Мікалая Федарчука, адказнага за арганізацыю выстаўкі, яна мяркуе заключэнне ўзаемных дагавораў аб гандлёвых пастаўках, пашырэнне рынку збыту айчыннай прадукцыі.

**Анатоль БРУЦКІ.**

### Моладзь каштуе дорага

*Праз месяц на разгляд Кабінета Міністраў будзе вынесена праграма маладзёжнай палітыкі, якая распрацоўваецца камітэтам.*

Перш за ўсё яна будзе накіравана на стварэнне служб падтрымкі моладзі ў пытаннях занятасці, вырашэнне праблем маладой сям'і, прафілактыку злачыннасці сярод маладых людзей.

Як заўважыў старшыня камітэта Міхаіл Падгайны, каштуе прапаноўваемы праект вельмі дорага. Калі праграму рэалізаваць у поўным аб'ёме, то сума выльецца ў мільярды рублёў. Пакуль што на атрыманне такіх грошай камітэту спадзявацца не даводзіцца.

**Алег СІТНІКАЎ.**

### Дзяцей будуць вучыць дома

*Беспрэцэдэнтны выпадак адбыўся ў Чэрыкаве: муж і жонка Тыманюк прынялі рашэнне не адпраўляць у школу сваіх дзяцей — першакласнікаў Ніку і Ігара.*

Бацькі лічаць, што дома яны самастойна змогуць даць сваім нашчадкам адукацыю не горшую. Камісія па справах непаўналетніх, якая разбірала гэты інцыдэнт, выслухаўшы ўсе довады, якія прыводзілі бацькі на карысць дамашняй адукацыі, вымушана была вынесці станоўчы вердыкт.

**Пётр ПУШЫНСКІ, РІД.**





## ЗАМЕЖЖА

*ІТАР-ТАСС * ІНТЭРФАКС * НАРОДНАЯ ГАЗЕТА*

Пульс дня

### Блізкаўсходні тупік

**ПАРЫЖ.** Мірны працэс на Блізкім Усходзе "знаходзіцца ў тупіку", але ён не спыніўся, заявіў лідэр Арганізацыі вызвалення Палесціны Ясір Арафат. Ён сустрэўся ў Парыжы з кандыдатам на пост прэзідэнта Францыі ад сацыялістычнай партыі Ліанэлем Жаспенам. "Крызіс сур'ёзны, — сказаў у сваю чаргу А.Жупе, — аднак неабходна працягваць гэты працэс. Спыніцца азначала б катастрофу не толькі для палесціна-ізраільскіх перагавораў, але і для ўсяго рэгіёна".

### Надзея памірае апошняй

"Кантактная група" захоўвае прапанову аб правядзенні серба-харвата-мусульманскай сустрэчы ў вярхах для ўрэгулявання югаслаўскага крызісу, нягледзячы на адмоўны адказ Бялграда. Аб гэтым тут заявіў афіцыйны прадстаўнік міністэрства замежных спраў Францыі Рышар Дзюке. Па яго словах, Францыя, Расія, ЗША, Вялікабрытанія і Германія, якія ўваходзяць у групу, па-ранейшаму прыкладаюць намаганні, каб забяспечыць умовы для правядзення трохбаковай канферэнцыі праз некалькі тыдняў.

### Верныя клятве Гіпакрата

**МАСКВА.** Расійскія медыкі працягваюць аказанне кваліфікаванай дапамогі насельніцтву Чэчні. Як паведамілі ў аператыўным штабе Мінздраўмедпрама Расіі, за ўвесь перыяд канфлікту медыцынская дапамога аказана 5841 пацыенту, у тым ліку 1595 параненым, 4246 хворым. З іх у шпіталь Усерасійскага цэнтра медыцыны катастроф "Защита" паступілі 4624 чалавекі, у іншыя лячэбныя ўстановы — 1217 чалавек.

### Дэсантнікі выйдуць апошнімі?

Падраздзяленні паветрана-дэсантных войск застаюцца ў Чэчні да поўнага раззбраення незаконных банд фарміраванняў і будуць узмоцнены асабовым складам і тэхнікай. Аб гэтым заявіў на прэс-канферэнцыі ў міністэрстве абароны Расіі камандуючы войскамі генерал-палкоўнік Яўген Падколзін. Паводле яго слоў, цяпер у Чэчні знаходзіцца 12 батальёнаў дэсантнікаў агульнай колькасцю каля 7 тысяч чалавек.

### Рамонт АЭС

**КІЕЎ.** Персанал Ровенскай атамнай электрастанцыі спыніў рэактарную ўстаноўку. Мяркуецца, што рамонт працягнецца да 10 сакавіка. Па сцвярджэнню прэс-службы, радыяцыйны фон у раёне АЭС застаўся без змяненняў. Адхіленне ў рабоце энергаблока не ўяўляе небяспекі для насельніцтва і навакольнага асяроддзя.

### Візіт у КНР

**АЛМА-АТА.** Урадавая дэлегацыя Казахстана на чале з першым намеснікам прэм'ер-міністра Нігматжанам Ісінгарыным вылецела з рабочым візітам у Кітайскую Народную Рэспубліку па запрашэнню яе ўрада. На перагаворах у Пекіне будуць абмеркаваны пытанні далейшага развіцця казахстанска-кітайскіх гандлёва-эканамічных адносін і транспартных перавозак, удасканалення дзейнасці двухбаковай міжурадавай камісіі па гандлёва-эканамічнаму і навукова-тэхнічнаму супрацоўніцтву.

### Чэчня — "вялікая магіла"?

**МАСКВА.** Некалькі магільнікаў спецкамбіната "Радон" для выкарыстаных крыніц іанізуючага выпраменьвання, якія выкарыстоўваюцца, напрыклад, у медыцыне, сельскай гаспадарцы і іншых галінах, размешчаны на тэрыторыі Чэчні. Адзін з іх — непадалёку ад Грознага. Аб гэтым паведаміў першы намеснік старшыні Дзяржатамнагляду Расіі Аляксандр Гуцалаў. Аднак гэтыя магільнікі даволі надзейныя і бяспечныя, падкрэсліў спецыяліст.

### Ці будзе бюджэт?..

У сераду Дзяржаўная дума прыступіць да разгляду ў трэцім чытанні праекта федэральнага бюджэту на 1995 год. Такое рашэнне прыняў Савет палаты. Каменціруючы яго, спікер Дзярждумы Іван Рыбкін сказаў журналістам, што паартыкульнае абмеркаванне праекта бюджэту не будзе лёгкім. Ён звярнуў увагу на празмерныя запытанні ведамстваў, з якімі, напэўна, не пагодзяцца парламентарыі.

## Светская хроника

### Знакомьтесь— известный певец и танцор Сидни Натан

**Полное имя:** "Сидни Натан Форд-3. Вот кто я! Мой отец был вторым, а дед — первым. Моя семья владеет поминальным домом в Мемфисе. Имя Натан взято из Библии — меня так назвала мама. Мне это имя очень нравится — ведь оно означает "Бог вина".

**Дата рождения:** "2 декабря 1960 года. Человек я упрямый и часто поступаю, как ребенок. Но я отличный любовник... Я ничего не принимаю близко к сердцу и никогда ни с кем не борюсь".

**Место рождения:** "Сан-Антонио, Техас — в военном госпитале. Иногда моя мама шутит по этому поводу, что ей ребенка подменили. Ведь мои брат и сестра светлокожие, и я ни на кого из них не похож. И все же я похож на маму, чему несказанно рад. Ведь она модель, она действительно красивая. Да и я не урод".

**Место жительства:** "Западная Германия. Город Мангейм. Я живу там со своей подругой Клаудией. Раньше с нами жила и собака, но сейчас мы ее отправили к матери Клаудии. Наша квартира мала!"

**— Ты когда-нибудь в детстве спрыгивал со шкафа?**

— Ха! Никогда! Я не был плохим мальчиком. Не считая того времени, когда гостил у бабушки. Кроме того, что разукрашивал ее котов, я сжег и все бабушкины деревья. Мне тогда здорово влетело прутиком. Хотя бабушка достаточно интеллигентный человек, она жевала табак и так на меня ругалась! Кстати, бабуля может плевать табак на расстояние 15 метров. Вот так-то!

**Самое ненавистное занятие:** "Думаю, что работа в "Макдональдсе" в 1977-78 гг. (это было до армии). Проработал там всего один день. Я быстро устал готовить проклятые биг-маки. Но когда я швырнул униформу на пол, служащие заведения сказали мне, что за собой надо убрать. Вот тут я разозлился еще больше и начал топтать форму ногами".

— Ты уже танцевал на Берлинской стене?

— Пока нет, но уже подумываю об этом. Круто!

— Как ты поддерживаешь хорошую форму?

— Имеется в виду фигуру? Ем много рыбы и овощей. Кроме того, каждое утро я делаю 50 отжиманий и 50 подтягиваний, ложусь рано спать и чувствую себя отлично. Ем не очень много. Но сам хорошо готовлю. Особенно люблю печь торты. Шоколадные. А знаете, как надо вкусно приготовить индейку? Ее нужно обжаривать постепенно, медленно поливая теплым соусом. Если ее готовить наскоро, то она не будет сочной. Учитесь у меня!

*(По материалам зарубежной прессы.)*

### Прайшоў год, як знікла дачка Аль Бана і Раміны Паўэр

*Год назад бясследна знікла Еленія Карызі, старэйшая дачка папулярных італьянскіх эстрадных спевакоў Аль Бана і Раміны Паўэр.*

Яна была на канікулах у ЗША, павіншавала бацькоў з Новым годам па тэлефоне з Нью-Арлеана, і пасля гэтага яе ніхто не бачыў і не чуў. Інтэрпол сумесна з італьянскімі і амерыканскімі спецслужбамі ўжо адпрацаваў некалькі версій знікнення Еленіі: самазабойства, выкраданне рэлігійнай сектай, уцёкі ў Дамініканскую Рэспубліку. Ні адна з гэтых версій не знайшла дакументальнага пацвярджэння. Цяпер справа фармальна ўсё яшчэ знаходзіцца на разглядзе рымскай пракуратуры, якая не паведамляе ніякіх падрабязнасцей пра ход следства.

У адным з тэлеінтэрв'ю Аль Бана даў нядаўна зразумець, што страціў апошнюю надзею калі-небудзь зноў убачыць сваю дачку.

**З Італіі — Аляксей БУКАЛАЎ.**

### Японская фирма готовит революцию на музыкальном рынке

Лет через десять процесс покупки в музыкальном магазине новинок классической или поп-музыки будет происходить приблизительно таким образом: покупатель вставляет в автомат небольшую карточку, набирает номера выбранных им мелодий и нажимает кнопку "старт". Через несколько секунд вынимает карточку и, поместив ее в устройство размером с популярный "вокман", наслаждается по дороге домой творениями Шнитке или "золотыми хитами" Элвиса Пресли.

Ведущий в Японии производитель полупроводников корпорация "Эн И Си" объявила о создании уникального музыкального плейера, который произведет революцию на рынке музыки, поскольку сделает ненужными привычные всем аудиокассеты и компакт-диски. Названный "Силикон аудио", плейер качественно проигрывает музыку, записанную в память множества компьютерных микросхем, размещенных на тонкой плате размером с обычную кредитную карточку.

Опытный образец пока дорог и нуждается в серьезной доводке, поскольку музыка с миркочипа звучит всего 24 минуты, а "компьютерный овес нынче дорог" — стоит такая карточка пока 2 тысячи долларов. Однако фирма обещает, что в 2000 году на чип-карту можно будет записать уже 90 минут музыки, а цена ее упадет до 100 "зеленых". Тогда же будет продаваться еще более дешевая — всего за 1 доллар 70 центов — "компьютерная пластинка", но с нее можно только прослушивать музыку, а записать нельзя.

Что касается самого плейера "Силикон аудио", то в начале следующего века, как обещают японцы, его цена снизится до 50 долларов, а размеры чуть превысят саму карточку с микрочипами — все устройство фактически превратится в легкий музыкально-компьютерный моноблок без движущихся частей. Кроме того, в отличие от аудиокассеты можно будет сразу ставить любую мелодию.

На чип-карте можно хранить не только музыку, но и любую другую информацию, как, например, тексты, движущиеся и неподвижные изображения. За три года "Эн И Си" намерена вложить в доводку "Силикон аудио" миллиард долларов и создать для плейера микросхему с памятью в 256 мегабайт — в 16 раз больше, чем самый мощный современный микрочип.

**Владимир КУТАХОВ.**

